*Забарона БНФ: працэс пайшоў (стар. 2) Калякіну проста не пашанцавала, а Заматалін нібыта пацярпеў за палітыку (стар. 3) Каму на Беларусі жыць добра (стар. 4)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441

7 чэрвеня 1996 г. № 41 Кошт свабодны

## Хадыку і Сіўчыка папярэдзілі

**Пракурор г.Мінска Купрыянаў вынес «афіцыйнае папярэджанне» Ю.Хадыку і В.Сіўчыку, прыгразіўшы ім, што зноў пасадзіць у турму.**

Як паведаміла карэспандэнту СВАБОДЫ адвакат Н.Дударава, Ю.Хадыка і В.Сіўчык былі выкліканыя ў пракуратуру, дзе следчы С.Новікаў азнаёміў іх з тэкстам пракурорскага «папярэджання».

У чым жа правініліся Хадыка і Сіўчык? Аказваецца (цытуем): *«После изменения меры пресечения в своих интервью и публичных выступлениях на пресс-конференциях вы призываете оказать давление на органы следствия путем проведения массовых акций протеста, формируете своими выступлениями негативное общественное мнение в отношении следователей, ведущих расследование по делу. Такие действия являются нарушением ст.6 Закона «О Прокуратуре», согласно которой воздействие в какой бы то ни было форме на прокурорских работников с целью воспрепятствовать их законной деятельности запрещается».*

Пракурор Купрыянаў папярэджвае, што *«при повторении таких действий вам будет изменена мера пресечения на заключение под стражу».*

Напэўна, Хадыка і Сіўчык павінны заняцца цяпер «формированием позитивного общественного мнения в отношении следователей».

**Б.П.**

## Арыштавалі. Што было далей

**З мінскага спецразмеркавальніка, што на вул. Прылуцкай, гэтымі днямі пачалі выпускаць арыштаваных, якіх пахапалі падчас падзеяў 30 траўня.**

Усяго было асуджана 77 чалавек. Усе судовыя рашэнні былі вынесеныя на падставе міліцэйскіх пратаколаў і сведчанняў толькі міліцыянтаў. Прыкладна палова затрыманых атрымалі штрафы, астатнім далі «суткі» — ад 3 да 15.

Па словах затрыманых, у міліцэйскіх пастарунках іх жорстка збівалі.

*(Працяг на стар. 2)*

## Глуханямы ў міліцыі «загаварыў»

Навучэнец мінскага педвучылішча № 2 19-гадовы Анатоль Лісун (інвалід II групы, глуханямы з дзяцінства) быў затрыманы 30 траўня каля ГУМа і дастаўлены ў Цэнтральны РАУС. У панядзелак 3 чэрвеня ягоную справу разглядаў суд Ленінскага раёна. У якасці сурдаперакладчыка на судзе прысутнічаў бацька А.Лісуна — Анатоль Фёдаравіч.

Вось што ён сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ:

— Нейкі супрацоўнік міліцыі, які выступаў на судзе як сведка, так і не патлумачыў мне, як змог Анатоль *«кричать, выражаться нецензурной бранью, выкрикивать антиправительственные и антипрезидентские лозунги»* — менавіта такія абвінавачванні былі напісаны ў пратаколах на майго глуханямога сына.

Суддзя Ленінскага райсуда Валянціна Крывая не вынесла па гэтай справе ніякага рашэння, і А.Лісун быў адпушчаны на волю, праседзеўшы за кратамі 4 сутак ні за што. Такім чынам, гэтая справа можа быць упісана яскравай старонкай у гісторыю беларускай міліцыі.

**Анатоль МІРСКІ**

## Ці дазволяць?

Беларускі Народны Фронт выступіў з ініцыятывай правесці 22 чэрвеня (у дзень пачатку вайны) масавую акцыю «Народ супраць фашызму». Учора адбылося першае паседжанне аргкамітэта, на якім вырашана падаць у Мінскі гарвыканкам заяўку на правядзенне антыфашысцкай акцыі.

**Б.П.**

## Шарэцкі заяўляе, што Беларусі больш падыходзіць парламенцкая рэспубліка

*У Авальнай зале парламента адбылася сенсацыя. Пакуль Аляксандр Лукашэнка расслабляецца ў Сочы, спікер Вярхоўнага Савета сцвярджае, што кіраўніком выканаўчай улады павінен стаць прэм'ер-міністр.*

Чарговае паседжанне ВС у аўторак, 4 чэрвеня, пачалося даволі нечакана — слова ўзяў Сямён Шарэцкі, які пажадаў выказацца па некаторых праблемах дзейнасці ВС і сітуацыі ў краіне. Спікер «выдаў» 30-ці хвілінную прамову, дзе побач з уласцівымі Шарэцкаму пустаслоўем і патэтыкай гучалі сапраўды сенсацыйныя заявы.

Адзначыўшы як станоўчы фактар імкненне Вярхоўнага Савета знайсці агульную мову з выканаўчай уладай, Шарэцкі даў зразумець, што гэта імкненне не атрымала адэкватнай рэакцыі з боку прэзідэнта. Спікер заявіў, што напружаная абстаноўка ў краіне патрабуе ўзаемных кансультацый і прапанаваў правесці круглы стол, на які трэба запрасіць прадстаўнікоў усіх палітычных і грамадскіх арганізацыяў, кіраўнікоў трох галінаў улады. Калі ж прэзідэнт і Кабінет міністраў зноў не адкажуць на прапанову аб сумеснай працы над канцэпцыяй развіцця грамадства, то, па словах Шарэцкага, *«Вярхоўны Савет вымушаны будзе ўзяць ініцыятыву распрацоўкі шляхоў выхаду з крызісу ў цэлым у свае рукі».*

Шарэцкі ўскосна выказаўся адносна да апошніх вулічных падзеяў: «...*сіла неабходна толькі для ўціхамірвання сацыяльна небяспечных людзей, а не тых, хто супраць чагосьці выступаў альбо чым-небудзь абураецца — там больш, што для абурэння ў нас прычын больш чым дастаткова».* Нельга не заўважыць, як гэтыя словы кантрастуюць з заявамі Шарэцкага адразу пасля 26 красавіка, калі ён фактычна асудзіў дэманстрантаў.

Але найбольш нечаканы гучалі развагі Шарэцкага наконт палітычнай сістэмы Беларусі, дзе з таталітарных часоў калі што змянілася, *«то толькі ў горшы бок». «Адміністрацыя прэзідэнта імкнецца заняць месца Палітбюро..., а прэзідэнт — ролю генсека». «Увогуле, як паказвае вопыт Еўропы, для нас больш падыходзіць парламенцкая рэспубліка, дзе выканаўчая ўлада, гэта значыць Кабінет міністраў, знаходзіцца ў адной звязцы з парламентам, а прэзідэнт застаецца толькі кіраўніком дзяржавы. Кіраўніком жа выканаўчай улады з'яўляецца прэм'ер-міністр»,* — гэта заява стала, бадай, самай галоўнай фразай у выступленні.

На заканчэнне Шарэцкі паведаміў, што папросіць Аляксандра Лукашэнку выступіць у Вярхоўным Савеце з дакладам аб становішчы ў дзяржаве адразу пасля вяртання з адпачынку. Апошнімі словамі спікера стала яго просьба не распачынаць дыскусію па сваім выступленні — маўляў, я сказаў усё, што думаю, але прашу на гэта публічна не рэагаваць.

Маленькая, але яркая дыскусія, тым не менш, адбылася. Андрэй Клімаў назваў прамову Шарэцкага мужчынскім учынкам і прапанаваў адразу ж прыступіць да дэбатаў аб палітычнай сітуацыі ў краіне, а «згоднік» Уладзімір Малахоўскі заявіў, што ўсё гэта нагадвае яму кастрычніцкі 1964 года пленум ЦК КПСС (калі, нагадаю, здымалі Хрушчова).

Наступныя падзеі прадэманстравалі, што прэзідэнцкі бок сапраўды схільны ацэньваць выступленне спікера не інакш, як чарговую тайную змову супраць Аляксандра Лукашэнкі. На наступны дзень, 5 чэрвеня, у 10 гадзін адбылася запланаваная загадзя сустрэча Старшыні ВС Сямёна Шарэцкага, прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра і кіраўніка Федэрацыі прафсаюзаў Уладзіміра Ганчарыка. Чыгір спазніўся на 15 хвілін, а кіраўнік адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч не прыйшоў увогуле, спаслаўшыся на тэрміновае даручэнне прэзідэнта.

Найбольш парадаксальнай, але разам з тым і даволі верагоднай версіяй тлумачэння паводзінаў Шарэцкага можа быць банальны «расійскі след». Лукашэнка ў Сочы, вядома, не толькі купаецца і гуляе ў тэніс, але і вядзе інтэнсіўныя перамовы з расійскімі палітыкамі самых розных рангаў. У прадстаўнікоў Масквы Лукашэнка «выгандлёўвае» ў абмен на лаяльнасць пэўныя эканамічныя льготы.

Разам з тым агульнавядома, што беларускі прэзідэнт зведвае асаблівыя сімпатыі да нацыянальна-патрыятычнага флангу расійскага палітычнага спектру. Непажаданая актыўнасць «малодшага брата» ў гэтым накірунку выклікае натуральнае раздражненне ў «брата старэйшага», які, дарэчы, зусім не жадае пакідаць Крэмль на бліжэйшыя пяць гадоў. Магчыма, Масква вырашыла «пакараць» Лукашэнку за небяспечныя гульні, прадэманстраваўшы, наколькі хісткія яго пазіцыі нават ў сваёй краіне. Невыпадкова, што «зброяй» быў выбраны Сямён Шарэцкі, які з'яўляецца другой асобай у дзяржаве і які знайшоў у асобе кіраўніка Савета Федэрацыі Расіі Ягора Строева лепшага сябра і паплечніка.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Амерыканскія прафсаюзы выказваюць салідарнасць з працоўнымі Беларусі

**Амерыканская прафсаюзная арганізацыя AFL-CIO, якая аб'ядноўвае 79 рэгіянальных і галіновых прафсаюзаў і налічвае 13 млн. членаў, 5 чэрвеня выступіла з заявай у падтрымку людзей наёмнай працы ў Беларусі.**

Як адзначаецца ў заяве, нягледзячы на тое, што Беларусь ратыфікавала канвенцыі Міжнароднай арганізацыі працы, рэжым прэзідэнта Лукашэнкі груба зневажае правы працоўных. Улады гвалтоўна спынілі мірныя страйкі мінулым летам, забаранілі свабодныя прафсаюзы, увялі цэнзуру ў сродках масавай інфармацыі, праследуюць апазіцыйныя палітычныя партыі, прычым за апошнія два месяцы рэпрэсіі ўзмацніліся. Амерыканскія прафсаюзы лічаць абсалютна недапушчальнымі і дзеянні ўладаў па затрыманні і дэпартацыі лідэраў польскага прафсаюзнага руху.

*AFL-CIO* звяртаецца да беларускага ўраду з патрабаваннем безумоўнага выканання міжнародных нормаў. *«Мы лічым, што дэмакратыя і правы рабочых непадзельныя. Мы выказваем салідарнасць з нашымі беларускімі братамі і сёстрамі, зычым ім поспеху ў барацьбе і абяцаем, што будзем і ў далейшым уздымаць нашыя галасы супраць несправядлівасці і ўціску».*

**М.Н.**

## У Мінск сцягваюцца сілы. Навошта?

**Як стала вядома СВАБОДЗЕ, на гэтым тыдні па загадзе міністэрства ўнутраных справаў у Мінск пераводзяцца дадатковыя сілы амона і спецназа.**

Першае папаўненне (атрад амонаўцаў колькасцю 30 чалавек) прыбыло ў сталіцу 3 чэрвеня з Баранавіч. Міліцэйскія камандзіры патлумачылі падначаленым, што перадыслакацыя праводзіцца ў сувязі з тым, што «ў Мінску вельмі неспакойна». Для адпраўкі ў Мінск рыхтуюцца таксама атрады амона з Брэста, Пінска і іншых гарадоў.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Віктар Ганчар: «Застаецца спадзявацца на прававую свядомасць суддзяў»

**Мінскі гарвыканкам прыняў рашэнне «Аб парадку правядзення пікетавання дзяржаўных або грамадскіх прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і іншых аб'ектаў у г.Мінску», якое ўступіла ў сілу 29 траўня. Сталічная выканаўчая ўлада спасылаецца на тлумачэнне Мінскага гарадскога суда, паводле якога пікетаванне трэба разглядаць як адну з формаў дэманстрацый, сходаў, мітынгаў.**

Мы папрасілі Віктара Ганчара даць юрыдычна-прававы каментарый да гэтага рашэння.

— У гэтым дакуменце не вытрымана субардынацыя нарматыўных актаў. Любы нарматыўны акт павінен адпавядаць акту большай юрыдычнай сілы. Парадокс у тым, што ў нас парадак правядзення дэманстрацый, шэсцяў і мітынгаў дасюль не рэгламентаваны на заканадаўчым узроўні, і гэтыя праблемы ўсё яшчэ рэгулююцца ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. У гэтай сувязі можна сказаць адназначна: гарвыканкам не меў права рэгламентаваць гэтыя пытанні, бо гэта не адносіцца да сферы яго кампетэнцыі.

**— Але апаненты могуць сказаць: калі няма закона, чаму выканаўчая ўлада не мае права прыняць рэгламентуючы дакумент?**

— Гэты довад нельга ўспрымаць як аргумент, бо, яшчэ раз падкрэслю, гэта не адносіцца да кампетэнцыі гарвыканкама. Вядома ж, у якасці прадмета для спекуляцыі ўзнікае пытанне, чаму дасюль няма такога неабходнага закона. Пытанне гэтае сур'ёзнае і яно характэрызуе якасць заканадаўства ў нашай краіне.

Натуральна, што пікетаванне, з пункту гледжання прававых ацэнак гэтай формы выяўлення правоў грамадзян, юрыдычна не можа быць прыраўнавана да дэманстрацый і шэсцяў.

**— Які орган можа аспрэчыць гэтае рашэнне гарвыканкама, і што ў такой сітуацыі павінны прадпрымаць грамадзяне, якія хочуць правесці пікетаванне?**

— Па-першае, калі орган прымае акт з перавышэннем сваёй кампетэнцыі, то ў выпадку яго прымянення на практыцы дзейнічае норма існуючага заканадаўства. У гэтай канкрэтнай сітуацыі, улічваючы, што супрацоўнікі міліцыі будуць абапірацца ў сваіх дзеяннях на рашэнне выканкама, застанецца наступнае: альбо гэтае рашэнне павінна адмяніць сесія, альбо пры разглядзе канкрэтных выпадкаў адміністрацыйных правапарушэнняў суд павінен прымяняць норму дзеючага заканадаўства. У гэтым выпадку — указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 4 красавіка 1988 года. Застаецца спадзявацца, што суддзі праявяць належны ўзровень сваёй прававой свядомасці.

**— Ці ёсць сёння ў планах Вярхоўнага Савета прыняць, нарэшце, закон аб правядзенні мітынгаў, шэсцяў і дэманстрацый?**

— На жаль — не. З тэхнічнага і юрыдычнага боку няма ніякіх праблемаў у падрыхтоўцы гэтага законапраекта — ён можа быць зроблены на працягу тыдня. Аднак зараз будзе працаваць некалькі парламенцкіх камісіяў, якія дадуць юрыдычную і прававую ацэнку падзеям 26 красавіка і 30 траўня і затрыманню Паўла Знаўца. Я ўпэўнены, што вынікам працы гэтых камісіяў будзе адназначная рэкамендацыя Вярхоўнаму Савету прыняць адпаведны закон для дакладнай і дэталёвай рэгламентацыі гэтых праблемаў.

**Алесь ГАНКОВІЧ**

# Арыштавалі. Што было далей

*(Пачатак на стар. 1)*

Найбольш жорстка абыходзіліся з затрыманымі ў Цэнтральным і Ленінскім РАУС г.Мінска. Вось што гавораць пацярпелыя.

**Генадзь Сівохін, 18 гадоў, студэнт гістфака БДУ:**

— Мяне схапілі на праспекце Скарыны і прывезлі ў Цэнтральны РАУС, дзе па ўсім перыметры двара я ўбачыў шмат людзей, яны стаялі тварамі да плота з паднятымі рукамі. Калі хтонебудзь спрабаваў павярнуць галаву, да яго адразу падскокваў амонавец і з размаху біў нагою ў спіну.

Потым нас пачалі па чарзе адводзіць у будынак РАУС. Што рабілі з іншымі — не ведаю, а мне асабіста «паказалі, дзе ў чалавека знаходзяцца ныркі і печань». Так выказаўся адзін з міліцыянтаў, калі мяне запіхнулі ў прыбіральню, збівалі там і «ставілі на шпагат».

**Дзмітрый Ждановіч, 25 год, прадпрымальнік:**

— Мяне з сябрам затрымалі каля ГУМа, калі пабоішча ўжо скончылася (гэта было прыблізна а палове дзявятай вечара). На нас нечакана напалі чатыры чалавекі ў цывільным і зацягнулі ў «Жыгулі». У апорным пункце Ленінскага РАУС нас перадалі брытагалоўым, якія накінулі нам на галовы цэлафанавыя пакеты і пачалі малаціць па галаве і нырках. Збілі так, што ў камеры Ленінскага РАУС, куды мяне кінулі, я страціў прытомнасць. Міліцыянты выклікалі хуткую дапамогу, якая завезла мяне ў 9-ю клініку. На наступны дзень, калі я стаў лепей сябе адчуваць, вырашыў збегчы адтуль, каб зноў не патрапіць у міліцэйскія «абдымкі».

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

# Забарона БНФ: працэс пайшоў

**У аўторак 4 чэрвеня два прадстаўнікі міністэрства юстыцыі прынеслі ў штаб-кватэру БНФ паперу, падпісаную міністрам В.Сукалам. Галоўны юрыст краіны паведаміў кіраўніцтву БНФ аб афіцыйным папярэджанні, вынесеным Народнаму Фронту. Аказваецца, з дапамогай пракуратуры г.Мінска міністэрскія чыноўнікі «ўстанавілі» наступнае.**

Нібыта за апошні месяц Фронт *«...правёў шэраг несанкцыянаваных мітынгаў і шэсцяў, арганізаваў друкаванне і распаўсюджванне ўлётак, якія заклікалі да процізаконных дзеянняў з мэтай уздзейнічаць на супрацоўнікаў пракуратуры і прымусіць іх прыняць незаконныя рашэнні па крымінальнай справе, узбуджанай па фактах парушэння грамадскага парадку ў Мінску 26 красавіка 1996 г.»*. Убачыўшы ў гэтым парушэнні закона «Аб Пракуратуры» і закона «Аб грамадскіх аб'яднаннях», Мінюст і вынес Фронту другое па ліку папярэджанне. Фармальна гэта азначае, што з'явіліся юрыдычныя падставы паставіць перад Вярхоўным судом краіны пытанне аб закрыцці БНФ як грамадскай арганізацыі.

Менавіта такую мэту ставяць улады, лічыць Юрась Беленькі, які выконвае цяпер абавязкі старшыні Партыі БНФ. На яго думку, улада хоча забяспечыць законнае прыкрыццё сваім незаконным дзеянням. Ю.Беленькі сцвярджае, што БНФ як арганізацыя ніяк не ўдзельнічаў у падрыхтоўцы акцыяў у падтрымку палітычных вязняў, не друкаваў улёткі. А ўдзел некаторых актывістаў і прыхільнікаў арганізацыі ў падзеях 14 і 30 траўня — гэта іх асабістая справа, іх грамадзянская пазіцыя, выказваць якую не забараняе Канстытуцыя. Ю.Беленькі звярнуў увагу на тое, што ніводнай справы па незаконных затрыманнях грамадзянаў, нягледзячы на шматлікія скаргі, пракуратурай не ўзбуджана.

Адказваючы на пытанне, калі можна чакаць забароны БНФ, сакратар управы Фронта Вячаслаў Сіўчык выклаў наступны «план». На яго думку, гэта адбудзецца ў прамежку паміж выбарамі расійскага прэзідэнта і канцом жніўня — акурат у «мёртвы палітычны сезон». Хутчэй за ўсё, лічыць Сіўчык, забарону БНФ спалучаць з закрытым працэсам над ім і Ю.Хадыкам па падзеях 26-га, «каб юрыдычныя падставы падмацаваць маральнымі».

Але што дасць уладам забарона БНФ? В.Сіўчык упэўнены, што ўлады не дасягнуць сваёй мэты: «Немагчыма забараніць ідэю: яе абаронцаў можна загнаць толькі ў падполле, а да гэтага мы ўжо прызвычаіліся», — кажа ён.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Золото страны – главной банкирше

5 июня на пресс-конференции председателя правления Нацбанка Т.Винниковой и трех ее заместителей журналисты имели возможность целый час «наслаждаться» обществом высокопоставленных банковских особ. При этом удалось получить ответы далеко не на все интересующие всех вопросы.

### Курс будет...

Были даны разъяснения по поводу будущего белорусского рубля. На второе полугодие не будет устанавливаться никаких коридорных рамок. Курс будет привязан к декларированному уровню инфляции (2,5% в месяц) и получит название «курса ползущей привязки». По возможности будет осуществляться и привязка к российскому курсу.

Т.Винникова сообщила о необходимом уровне валютного курса для отдельных отраслей промышленности. Так, чтобы поддержать рентабельность на уровне 7—8 % в легкой промышленности, доллар должен стоить 15.000—16.000 рублей, в химической промышленности — 18.000 рублей, а для велозавода, к примеру, — 20.000. Однако с учетом привязки курса реально в третьем квартале он может оказаться на отметке 15.500—16.000 рублей за доллар.

Кроме того, как заявила глава НБ, в целях стабилизации ситуации на рынке наличной валюты банкам разрешено применять при покупке и продаже дилинговую премию и дилинговый сбор. Т.е. при покупке у населения валюты обменные пункты могут к установленному курсу прибавить некоторую сумму в качестве поощрения граждан, при продаже валюты устанавливается сбор (т.е. реально курс продажи будет увеличен; таким образом, у банков есть возможность выйти за рамки валютного коридора). Причем право на работу в таком режиме получили лишь шесть наиболее устойчивых крупных банков (валютные агенты правительства).

Как сообщила Т.Винникова, подобная практика со временем может быть использована и на валютной бирже.

### Банкротство – привычное дело

Что касается ситуации в банковской системе, то проблем здесь хватает, особенно в связи с последними двумя указами президента. В настоящее время в пяти банках (из 40 действующих в Беларуси) работают ликвидационные комиссии, в ближайшее время в их число попадут еще два.

### Золото – это здорово

Наибольшую же радость Т.Винникова выразила по поводу передачи золотого запаса РБ в ведение Национального банка, что означает фактически единоличное регулирование денежно-кредитной политики Беларуси председателем правления НБ (даже без участия представителей Минфина и др. госструктур). Этот факт г-жа Винникова назвала «большой победой».

**Наталья УЛЕВСКАЯ**

# Иностранные фирмы – не совхозные бригады

**Немецкая фирма «Феркерсбау Унион» прекратила работы по реконструкции автострады Минск—Брест.**

Согласно контракту, который был заключен с белорусским госпредприятием «Белавтострада», немецкая фирма взялась реконструировать 123-километровый участок дороги (от Столбцов до Ивацевич). Однако непомерные налоги и пошлины, а также административное сдерживание курса доллара привели к тому, что «Феркерсбау», выполняя данный контракт, понесла убытки на сумму почти в пять миллионов долларов США. Кроме того, качество дороги оказалось намного хуже, нежели было указано в тендере, поэтому качественный ремонт требует дополнительных издержек. А фирма заинтересована именно в качественном выполнении работ, поскольку дорожит своей репутацией. Но у нашего государства нет денег, и оно не соглашается внести дополнения в контракт.

Начальник одного из управлений министерства строительства и архитектуры Виталий Денисенко сказал корреспонденту СВАБОДЫ, что «немецкая фирма считает лучше поставить крест один раз, чем продолжать работу и нести убытки долгое время». Конфликт зашел довольно далеко и требует решения на уровне премьер-министра. Фирма подала рекламации еще в декабре минувшего года, но белорусская сторона тянет время и пробует «силовым методом» заставить «Феркерсбау» возобновить работы. 3 июня «Белавтострада» направила фирме письменное уведомление о прекращении действия контракта. Тем временем «Феркерсбау», считая свои претензии обоснованными, обратилась в международный суд в Вене с требованием компенсировать убытки.

Кстати, белорусское правительство ожидает еще один международный суд — с итальянской фирмой «Аления», с которой был заключен контракт на поставку оборудования для контроля на воздушном транспорте. Контракт был прерван по вине белорусской стороны.

**Алесь ДАЩИНСКИЙ**

# Не хацелі, але прынялі

**Беларусь, разам з Украінай, Албаніяй, Балгарыяй і Румыніяй, стала членам Цэнтральна-Еўрапейскай ініцыятывы (ЦЕІ) на апошнім форуме гэтай арганізацыі ў Вене.**

Частка членаў ЦЕІ выказвалася супраць прыняцця ў арганізацыю Беларусі і Албаніі, абвінавачваючы ўлады гэтых краін у парушэнні асноўных прынцыпаў дэмакратыі. Аднак у выніку абмеркавання былі прынятыя ўсе кандыдаты. Цяпер ЦІЕ аб'ядноўвае 13 постсацыялістычных дзяржаваў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, а таксама Аўстрыю і Італію.

У рамках форуму адбылася гаворка міністра замежных спраў Беларусі У.Сянько з шэфам польскай дыпламатыі Д.Расацi. Пасля сустрэчы кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Польшчы сказаў, што не атрымаў ніякіх доказаў абгрунтаванасці тых надзвычайных мераў, якія былі прынятыя супраць дзеячоў польскага прафсаюзнага руху. Разам з тым у часе гаворкі абодва бакі падкрэслілі імкненне да нармалізацыі адносін, адзначыў Д.Расацi.

**М.Н.**

СВАБОДА
7 чэрвеня 1996 г., № 41

*Каму на Беларусі жыць добра*

# Народжаны ў Беларусі

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

Ты нарадзіўся на гэтай зямлі, у Беларусі. Які твой лёс, кім ты можаш стаць, дзе выявіш свае здольнасці і характар? У чым тваё прызначэнне, які крыж несці табе ў жыцці? Куды цябе завядзе беларуская сцежка?

Хачу прапанаваць свой варыянт гісторыі і сацыялогіі нашай краіны ў афарыстычнай форме. Такім чынам, ты нарадзіўся на Беларусі...

### Добра нарадзіцца ў сям'і творчай інтэлігенцыі

З дзяцінства ты прывучаны, што нікому не патрэбны. Пакуль бацькі займаюцца творчасцю і сямейнымі скандаламі, ты можаш спакойна прапускаць заняткі і чытаць забароненыя кнігі. Ты — «рэч у сабе», твае планы невядомыя нікому, сэнс твайго жыцця — загадка для цябе самога. Табе хочацца жыць добра і прыгожа ўжо цяпер, таму неабходнасць нечага дабівацца выклікае толькі горкае раздражненне. Падчас чарговай сваркі з бацькамі ты кідаеш ім недзе вычытаную «амерыканскую» фразу: «Калі вы такія разумныя, чаму вы такія бедныя?»

За сваё жыццё ты паспрабуеш дзесяткі тусовак: хіпі, футбольныя фанаты, «адраджэнцы», — папрацуеш мастакомафарміцелем, журналістам, брокерам, рэкламным агентам і г.д. Сёння, калі не спіўся ці не скурыўся «наркотай», ты граеш дзе-небудзь у рэстаране, займаешся перакладамі з замежных моваў, у лепшым выпадку — бізнесам, альбо працуеш за мяжой, як кажуць, «не па спецыяльнасці». Пры гэтым пішаш «у стол» і чакаеш часоў, калі мастацтва і культура стануць каму-небудзь патрэбнымі, каб заняцца любімай справай.

### Добра нарадзіцца ў рабочай сям'і

«Жыццёвыя універсітэты» ты праходзіш шмат хутчэй за іншых равеснікаў. Курыць ты пачаў у 11, піць — у 14, а ў 16, падпільнаваўшы момант, калі бацькоў не было дома, «блізка пазнаёміўся» з 20-гадовай суседкай. Пакуль па тэлевізіі вяшчаюць аб «рабочых дынастыях», твой бацька, як разумны чалавек, гаворыць: «Вучыся, сынок, а то будзеш гарбаціцца на заводзе, як я». Але вучыцца табе цяжка і неахвота, а прыклад тваіх бацькоў назаўсёды адбівае жаданне станавіцца «яго вялікасцю рабочым класам».

Яшчэ ў школе ці ПТВ, пакуль іншыя б'юцца «раён на раён», ты пачынаеш гуляць на грошы, займацца фарцоўкай, спекуляцыяй. Калі табе не пашанцавала патрапіць у спартовую секцыю, у цябе найлепшы шанц апынуцца ў «благой кампаніі». У крытычнай сітуацыі старэйшыя і больш спрактыкаваныя таварышы падставяць цябе як галоўнага завадатара групы. Пасля «зоны» ты ўжо не захочаш станавіцца звычайным грамадзянінам, тым больш што на волі «крыміналу» ёсць чым заняцца.

Зрэшты, сёння табе хапае і дастаткова легальных формаў актыўнасці: менавіта з такіх, як ты, нараджаецца наша своеасаблівая дробная буржуазія. Менавіта ты сядзіш у кіёсках, возіш вялізныя торбы з Польшчы і Турцыі, займаешся «ахоўнымі паслугамі». У цябе ёсць грошы, але ніколі ўжо не будзе культуры, затое сваіх дзяцей ты напэўна пагоніш у лепшыя універсітэты.

### Добра нарадзіцца ў сярэдняй сялянскай сям'і

З дзяцінства ты ўспрымеш простыя і зразумелыя ісціны, якіх не трэба падвяргаць сумненню. Ты заўсёды будзеш ведаць, чаго табе трэба, бо для пастаноўкі недарэчных пытанняў аб сэнсе жыцця проста няма часу. Універсальны жыццёвы прынцып тваіх бацькоў «Не высоўвайся!» беспамылкова падкажа табе, што вышэй галавы лепей не скакаць. Не ты выбіраеш дарогу ў жыцці, яно само выбірае за цябе: школа, войска, жаніцьба — усё «як у людзей». Занятак ты возьмеш трывалы, надзейны, які, як табе здаецца, дае магчымасць пракарміць сям'ю: завод, аўтапарк, міліцыя, войска. Перасяліўшыся ў горад, ты хочаш стаць падобным на яго жыхароў, а таму не любіш усё, што звязана з вёскай: традыцыі, мову, песні. Пры любых палітычных рэжымах табе ледзь хапае на хлеб і гарэлку, але ты супакойваешся тым фактам, што такіх — большасць.

Зрэшты, магчымы і іншы, аптымістычны варыянт: школа з залатым медалём, інстытут з чырвоным дыпломам, сумленная праца на заводзе, у НДІ ці ў камсамоле. Ты не ведаеш сумненняў, працуеш локцямі і таму перамагаеш. Гадоў праз 5—7 здзяйсняецца першая частка «беларускай мары» — кватэра ў Мінску. Галоўнае — слухацца начальства і старанна выконваць усё, што ад цябе патрабуецца. Глядзіш — наступае момант, і ты сам становішся начальнікам. Перад табою ззяе светлы прыклад сялянскіх дзяцей — ад усіх членаў Палітбюро да першага беларускага прэзідэнта.

### Добра нарадзіцца рускім

Звычайна ты жывеш у вялікім горадзе ў сям'і навуковай і тэхнічнай інтэлігенцыі альбо высокакваліфікаванага рабочага. Калі летам большасць аднакласнікаў едзе на вёску, цябе адпраўляюць у лагер альбо пакідаюць ў горадзе — вёска вашай сям'і далёка ў Расіі. Твая нацыянальнасць у дзяцінстве праяўляецца толькі адным спосабам: дзякуючы ёй табе даюць права не вучыць беларускую мову. Потым, на кафедры, у НДІ ці ў КБ, табе пачынае здавацца, што «нацыянальны фактар» дзейнічае: пры «прочих равных» аддадуць перавагу беларусу. Цябе гэта абурае як чалавека, які ў любой саюзнай рэспубліцы прывык адчуваць сябе дома.

Калі пачынаюцца перамены, ты, як інтэлігентны чалавек, успрымаеш беларускае адраджэнне і суверэнітэт «у прынцыпе станоўча», хоць і своеасабліва: «беларускую мову падтрымліваю, але вучыць не буду», «я за незалежнасць, але разам з Расіяй». На выбарах ты галасуеш пераважна за Кебіча. Лукашэнку не любіш за яго «калхознасць», але падтрымліваеш на рэферэндуме. Рынак зрабіў непатрэбнымі ўсе твае навуковыя тытулы, таму ты альбо працягваеш гібець разам са сваім НДІ, альбо ідзеш у бізнес, дзе зноў адчуваеш сябе «як дома».

### Добра нарадзіцца палякам

Звычайна ты нарадзіўся ў вёсцы альбо невялікім заходнебеларускім мястэчку. Ты ходзіш разам з бацькамі ў касцёл, і гэта акалічнасць прыдае табе пачуццё маральнай перавагі над іншымі аднакласнікамі. Фанабэрыю падмацоўвае той факт, што на канікулах ты можаш ездзіць за мяжу, у Польшчу, да сваіх сваякоў, прывозячы адтуль замежныя фанцікі і гумкі.

Твая "польскасць" часам выяўляецца толькі ў асаблівасцях вымаўлення. Мовы і гісторыі ты не ведаеш, але смяротна крыўдзішся на сваіх суайчыннікаў з-за Буга, якія называюць цябе «савецкім палякам». Ты ўдала прабіваешся ў жыцці, становішся старшынёй калгаса ці чыноўнікам выканкама і са здзіўленнем глядзіш на свайго брата, які актыўна займаецца адраджэннем не толькі польскай, але і беларускай школы. Ты не разумееш, навошта ён ходзіць да беларускіх ксяндзоў і арганізоўвае беларускія фэсты, бо сам ты не ходзіш нікуды. Вы жывяце на адной зямлі, але ж вы такія розныя.

### Добра нарадзіцца габрэем

Бацькі з дзяцінства прывучаць цябе, што ты не такі, як усе, а суседскія дзеці і аднакласнікі дапамогуць прыняць гэты факт, называючы раз-пораз цябе «жыдом». І хаця гэтым словам тваю нацыю афіцыйна клічуць на большасці моваў свету, ты будзеш лічыць сябе смяротна зняважаным, затаіўшы ў душы вялікую крыўду. Таму ўсё жыццё ты мусіш камусьці штосьці даказваць: ты вучыш урокі, калі астатнія бадзяюцца па двары, ты граеш на скрыпцы, калі таварышы гуляюць у футбол, і ў грошы і прафесію ты верыш больш за сяброўскія адносіны.

Табе рашуча не падабаецца гэты свет, які жыве не па тваіх правілах. Калі здольнасці і характар не дазволяць табе стаць першым (у культуры, бізнесе, мастацтве), ты, натхнёны прыкладамі Маркса, Фройда ці Троцкага, магчыма, захочаш зрабіцца рэвалюцыянерам. Але паколькі ты нарадзіўся ў Беларусі — самай нерэвалюцыйнай краіне, — то застаецца два варыянты: або прыстасоўвацца, або эміграваць.

Добра нарадзіцца на Беларусі...

# Дэманстрацыі ў Вашынгтоне

**5 чэрвеня ў Вашынгтоне адбыліся дэманстрацыі пратэсту перад пасольствамі Беларусі і Расіі.**

Акцыю арганізавала Кааліцыя ў падтрымку дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі. Кааліцыю заснавалі 14 беларускіх арганізацый Паўночнай Амерыкі, сярод якіх Беларускае Амерыканскае Задзіночанне, Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Сусветная асацыяцыя беларускіх габрэяў, Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады і інш.

Арганізатары ад імя ўдзельнікаў дэманстрацыі распаўсюдзілі зварот да амерыканскай грамадскасці і дзелавых колаў. У ім падкрэсліваецца, што падзеі апошніх часоў у Беларусі — *збіццё і выдаленне дэпутатаў з залы паседжанняў, націск на Канстытуцыйны суд, забарона свабодных прафсаюзаў, дзяржаўная манаполія на сродкі масавай інфармацыі і ўвядзенне цэнзуры, фактычнае спыненне эканамічных рэформаў, нядаўнія расправы над удзельнікамі мірных шэсцяў і інш.* — несумяшчальныя з паняццем дэмакратыі і ўяўляюць вялізную небяспеку для стабільнасці ў Еўропе.

*«Мы звяртаемся да амерыканскага народа і асабліва да дзелавых колаў, на чые інвестыцыі разлічвае Лукашэнка, з заклікам падняць голас у абарону ўсіх арыштаваных і праследаваных урадам Лукашэнкі, каб дапамагчы Беларусі выжыць як незалежнай і багатай дзяржаве, дзе высока цэняць правы чалавека, канстытуцыйны лад і добрыя ўзаемадачыненні з суседзямі і цэлым светам»*, — гаворыцца ў звароце.

**Б. П.**

# Інцыдэнт з паветраным шарам: канец гісторыі?

**Прэс-сакратар Дзяржаўнага дэпартамента ЗША Нікалас Бэрнс распаўсюдзіў заяву па выніках расследавання здарэння з паветраным шарам на Беларусі ў верасні 1995 г.**

Міжнародная камісія, гаворыцца ў заяве, правяла дэталёвае расследаванне знішчэння спартовага паветранага шара на беларускай тэрыторыі, якое выклікала смерць двух амерыканскіх грамадзянаў. Афіцыйнае заключэнне перададзена ў Міжнародную арганізацыю грамадзянскай авіяцыі.

У дакуменце робяцца высновы, што трагедыя сталася магчымай у выніку збегу шэрагу абставін, у тым ліку невыканання беларускімі органамі грамадзянскай авіяцыі прынятага парадку апрацоўкі заявак на палёты. Таксама адзначаюцца парушэнні, якія дапусцілі беларускія вайскоўцы пры апазнанні і класіфікацыі паветранага шара. Падкрэсліваецца, што яны не прынялі ўсіх належных мераў для ўстанаўлення сувязі з шарам.

Камісія рэкамендуе арганізатарам гонак на паветраных шарах больш дэталёва рыхтаваць радыёкантакты паветраплавальнікаў з уладамі тых краінаў, чыю прастору ўдзельнікі гонак перасякаюць. Даюцца таксама іншыя рэкамендацыі па прадухіленні трагедый у паветры.

Поўны тэкст заключэння знаходзіцца ў амерыканскім Нацыянальным упраўленні па бяспецы на транспарце.

**Б.П.**

**КАДРЫ**

**Інтэгратары.** *Расійскі пасол у Мінску Іван Сапрыкін (злева) і пасол Беларусі ў РФ Віктар Даніленка*

**ДАЙДЖЕСТ**

# Правительство Беларуси опасается «культурного шока»

*Под таким заголовком появилась статья в немецкой газете Münsterland Zeitung*

Газета анализирует политику белорусских властей относительно контактов общественности в рамках «народной дипломатии» и, в частности, оздоровления наших детей, живущих в районах, пострадавших от Чернобыльской катастрофы.

В статье отмечается, что при любом удобном случае представители белорусского правительства добиваются того, чтобы деньги на реализацию чернобыльских программ поступали непосредственно в пострадавшие области, где и следует организовывать оздоровление ребят. Белорусские правительственные чиновники аргументируют это тем, что, отдыхая и укрепляя здоровье за рубежом, дети подвергаются опасности «культурного шока».

Профессор Ганноверского университета Эрика Шухард, основываясь на впечатлениях от собственных многочисленных поездок в пострадавшие районы, знакомства с детьми, побывавшими в ФРГ, и принимавшими их немецкими семьями, отмечает по этому поводу: «Более 90 % из опрошенных 229 родителей высказались о поездке своих детей положительно. Благодаря этим визитам и установившимся дружеским контактам дети узнали много нового. Дети внесли свой большой вклад в построение «моста дружбы» между нашими народами. Воздействие маленьких посланцев Чернобыля подобно камню, брошенному в воду, круги от которого приводят всех в движение». Профессор Шухард считает крайне необходимыми рождаемые такими контактами дискуссии и обмен информацией. «Белорусское правительство бывшего офицера КГБ Александра Лукашенко,— говорит Шухардт, — не заинтересовано в том, чтобы распространять правду о Чернобыле. Во время визита в пораженные районы Могилевской и Гомельской областей глава государства высказался «о преувеличении опасности, которой напрасно пугаются в европейских странах».

**Подготовил Т.АБОРИН**

# Да ўвагі чытачоў

Публікуючы сёння анкету, рэдакцыя СВАБОДЫ спадзяецца, што вы, шаноўныя чытачы, возьмеце актыўны ўдзел у нашым апытанні. Гэта робіцца з адзінаю мэтаю: зрабіць газету лепшай. Для нас важная думка кожнага чытача, паколькі мы хочам максімальна задаволіць інтарэсы нашай аўдыторыі — тых, хто выпісвае і купляе СВАБОДУ.

Рыхтуючы кожны нумар газеты, рэдакцыя кіруецца галоўным прынцыпам: ці будзе для чытача цікавым, актуальным і важным прачытаць тое, што мы збіраемся выпусціць у свет. Не заўсёды ўдаецца зрабіць газету такой, як хацелася б (на тое ёсць шмат прычын, звязаных з друкаваннем, фінансамі і г.д.). Але безумоўна ёсць рэчы, якія можна палепшыць ужо сёння і без асаблівых выдаткаў. Мы стараемся. І хочам, каб вы нам дапамаглі: сваімі ацэнкамі, пажаданнямі, крытыкай і г.д. Зрабіць газету лепшай — гэта ў нашых агульных інтарэсах.

Такім чынам, шаноўныя, просім вас знайсці вольную хвіліну, запоўніць анкету, выразаць яе і адправіць на адрас СВАБОДЫ. Вынікі апытання мы абавязкова апублікуем.

*Рэдакцыя*

СПОРТ

# Правал – у Стакгольме, поспех – у Мадрыдзе

*ФУТБОЛ:* **ДЛЯ АДНЫХ — СВЕТ, ДЛЯ ДРУГІХ — ЕЎРОПА**

Раскручваецца спіраль адборачнага турніру чэмпіянату свету па футболе. Пра няўдалы выступ зборнай Беларусі ў Стакгольме вы ўжо ведаеце (1:5). А вось як закончыліся восем іншых матчаў: Нарвегія — Азербайджан — 5:0, Югаславія — Мальта — 6:0, Сан-Марына — Уэльс — 0:5, Ісландыя — Македонія — 1:1. У Паўднёвай Амерыцы эквадорцы на сваім полі сенсацыйна перамаглі віцэ-чэмпіёнаў свету аргенцінцаў — 2:0. З такім жа лікам зборная Уругвая нечакана саступіла дома камандзе Парагвая. Унічыю (1:1) згулялі Венесуэла — Чылі і Перу — Калумбія.

8 чэрвеня ў Лондане адкрыецца фінальны турнір X чэмпіянату Еўропы. За перамогу будуць спаборнічаць 16 нацыянальных зборных, якія разбітыя на чатыры групы. *Група А:* Англія, Галандыя, Швейцарыя, Шатландыя. *Група В:* Балгарыя, Іспанія, Румынія, Францыя. *Група С:* Германія, Італія, Расія, Чэхія. *Група D:* Данія, Партугалія, Турцыя, Харватыя. Па дзве лепшыя каманды ўтвараюць пары чвэрцьфіналістаў, затым паўфіналы і фінал, які, як і адкрыццё чэмпіянату, адбудзецца на лонданскім стадыёне «Уэмблі» 30 чэрвеня. Зборная Беларусі, як вядома, у фінал не патрапіла, аднак беларускія арбітры Вадзім Жук, Алег Чыкун і Юрый Дупанаў будуць судзіць гульню каманд Францыі і Іспаніі.

*ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА:* **БРОНЗАВЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ**

На спаборніцтвах наймацнейшых лёгкаатлетычных каманд Еўропы сюрпрызам стала выступленне жаночай зборнай Беларусі, якая ва ўпартай барацьбе з супернікамі з Украіны, Францыі і Англіі ўпершыню заваявала бронзавыя медалі. Вышэй толькі каманды Германіі і Расіі. І мужчынскі калектыў германскіх атлетаў стаў найлепшым на кантыненце. Наша мужчынская каманда выступіць на спаборніцтвах групы *В* у Нарвегіі напрыканцы чэрвеня. А мы назавём імёны беларускіх дзяўчат, якія ўдала выступілі ў Мадрыдзе. Другія месцы занялі Лідзія Юркова (бег на 100 м з бар'ерамі), Ганна Козак (бег на 400 м), Наталля Шыкаленка (кіданне кап'я); трэція — Наталля Духнова (бег на 800 метраў), Нэлі Варанкова (400 метраў з бар'ерамі), Ірына Ятчанка (кіданне дыска). Рэкорд Беларусі ў эстафеце 4 х 100 м устанавілі Маргарыта Мочан, Наталля Сафроннікава, Наталля Салагуб, Алена Грыгароўская — 43,62.

*ХАКЕЙ:* **У NHL ІЗНОЎ УСЁ НЯПРАВІЛЬНА**

У фінал Аубка Стэнлі насуперак прагнозам выйшлі не «Дэтройт Рэд Уінгз» і «Пітсбург Пінгвінз», а пераможцы паўфінальных серыяў «Каларада Рокіз» і «Флорыда Пантэрс». Першы фінальны матч прынёс поспех «Каларада» — 3:1.

*ТЭНІС:* **ХТО ПЕРАМОЖА НА «РАЛАН ГАРОС»?**

У паўфіналах адкрытага чэмпіянату Францыі выступяць Пітс Сампрас (ЗША) — Яўген Кафельнікаў (Расія), Марк Расэ (Швейцарыя) — Міхаэль Шціх (Германія); Штэфі Граф (Германія) — Яна Новатна (Чэхія), Аранта Санчас — Канчыта Марцінес (абедзве з Іспаніі).

*ВЕСЛАВАННЕ:* **ПЕРАМАГЛІ МАГІЛЁЎЦЫ**

Магілёўскія чацвёрка з рулявым і двойка парная «выплылі» пераможцамі юбілейнай рэгаты па акадэмічным веславанні, прысвечанай 110-годдзю клуба веславання польскага горада Влацлаўка. У спаборніцтвах бралі ўдзел 200 лепшых спартсменаў Польшчы і Беларусі.

**Сямён ПЛОЦ**









АНКЕТА

# Апытанне чытацкай аўдыторыі газеты СВАБОДА

**1. Якім чынам Вы атрымліваеце СВАБОДУ?**
- ☐ па індывідуальнай падпісцы
- ☐ па падпісцы ўстановай
- ☐ купляю ў кіёсках
- ☐ купляю ў прыватных распаўсюднікаў
- ☐ перадаюць сваякі, знаёмыя
- ☐ іншым чынам (якім?)

**2. Як вы чытаеце газету?** *(пазначыць толькі адзін адказ)*
- ☐ чытаю ўсе тэксты
- ☐ чытаю большасць артыкулаў
- ☐ чытаю толькі некаторыя артыкулы або палосы
- ☐ толькі праглядаю

**2. Колькі чалавек разам з Вамі чытаюць нумар газеты?** *(назваць колькасць чалавек)*

**4. Як Вы ўспрымаеце газету?** *(магчыма некалькі адказаў)*
- ☐ як асноўную крыніцу інфармацыі
- ☐ як адну з папулярных газет
- ☐ як матэрыял, карысны для працы
- ☐ як дадатак да адной са штодзённых газет

**5. Чаму Вы чытаеце газету СВАБОДА?** *(назваць максімум 3 адказы)*
- ☐ каб ведаць пра падзеі ў краіне
- ☐ бо гэта незалежнае ад уладаў выданне
- ☐ газета дапамагае мне зарыентавацца ў падзеях
- ☐ газета мне проста цікавая
- ☐ чытаю па звычцы
- ☐ бо гэта мая газета
- ☐ па іншых прычынах (якіх?)

**6. Якую інфармацыю Вы шукаеце ў газеце?** *(назваць максімум 3 адказы)*
- ☐ палітычную
- ☐ каментарыі, меркаванні, аналітыку
- ☐ агляды замежнай прэсы
- ☐ любую цікавую інфармацыю
- ☐ інфармацыю аб прыватным жыцці вядомых людзей
- ☐ іншую (якую?)

**7. Як вы лічыце: чаго ў газеце многа, а чаго не хапае?**

| | Многа | Мала | Дастаткова |
|---|---|---|---|
| Палітычныя навіны і каментарыі | | | |
| Аналітыка | | | |
| Замежная інфармацыя | | | |
| Эканамічная інфармацыя | | | |
| Культурная і гістарычная тэматыка | | | |
| Інфармацыя з рэгіёнаў | | | |
| Інтэрв'ю | | | |
| Ілюстрацыі | | | |
| Спорт | | | |
| Інфармацыя аб жыцці вядомых людзей | | | |
| Здарэнні, крымінал | | | |

**8. На якія яшчэ тэмы мала інфармацыі ў газеце?** *(назваць максімум 3 тэмы).*

**9. Якую паласу Вы чытаеце:**
- у першую чаргу ____________
- у другую чаргу ____________
- не чытаеце зусім ____________

**10. Як Вы ацэньваеце наступныя рысы газеты** *(па 5-бальнай сістэме: 1 — вельмі кепска, 5 — выдатна)?*

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|---|
| Падборка тэм | | | | | |
| Вастрыня паднятых праблем | | | | | |
| Глыбіня інфармацыі | | | | | |
| Практычнасць інфармацыі | | | | | |
| Дакладнасць інфармацыі | | | | | |
| Даступнасць выкладання | | | | | |
| Прафесіяналізм аўтараў | | | | | |
| Кошт газеты | | | | | |
| Аб'ём газеты | | | | | |
| Фармат газеты | | | | | |
| Якасць друку | | | | | |
| Падборка рубрык і артыкулаў | | | | | |
| Палітычная незалежнасць газеты | | | | | |

**11. Якія газеты Вы яшчэ выпісваеце альбо купляеце?**

| | Выпісваю | Купляю рэгулярна | Зрэдку чытаю | Не чытаю зусім |
|---|---|---|---|---|
| Народная газета | | | | |
| Советская Белоруссия | | | | |
| Звязда | | | | |
| Рэспубліка | | | | |
| Белорусская деловая газета | | | | |
| Имя | | | | |
| Народная воля | | | | |
| Свободные новости—плюс | | | | |
| Пресс-бол | | | | |
| Известия | | | | |
| Іншыя выданні (назавіце якія) | | | | |

**Адкажыце, калі ласка, на некалькі пытанняў пра сябе.**

**12. На якой мове Вы хацелі б чытаць СВАБОДУ?** *(дайце толькі адзін адказ)*
- ☐ выключна па-беларуску
- ☐ пераважна на беларускай, але з рускамоўнымі тэкстамі, якія размяшчаюцца на асобных палосах
- ☐ змешаны варыянт: беларускія і рускія тэксты размяшчаюцца хаатычна на ўсіх старонках — ад першай да апошняй.

**13. Колькі Вам гадоў?**
- ☐ да 20
- ☐ ад 30 да 40
- ☐ ад 40 да 50
- ☐ больш за 50

**14. Пол:**
- ☐ Мужчына
- ☐ Жанчына

**15. Адукацыя:**
- ☐ пачатковая
- ☐ сярэдняя
- ☐ незакончаная вышэйшая
- ☐ студэнт ВНУ
- ☐ вышэйшая тэхнічная
- ☐ вышэйшая гуманітарная

**16. Ваш цяперашні занятак:**
- ☐ студэнт, вучань, навучэнец ПТВ
- ☐ дзяржаўны служачы
- ☐ работнік сферы адукацыі, культуры, навукі, медыцыны, права
- ☐ уладальнік ці саўладальнік фірмы, прыватны прадпрымальнік
- ☐ работнік фінансавай сферы
- ☐ работнік сферы гандлю і паслугаў
- ☐ работнік фізічнай працы
- ☐ сельгасработнік
- ☐ пенсіянер
- ☐ хатняя гаспадыня
- ☐ не працую
- ☐ іншае

**17. Якую пасаду займаеце?** *(па жаданні)*

**18. Калі ласка, назавіце памер Вашай зарплаты.**
- ☐ менш за 400.000 руб.
- ☐ 400.000—800.000 руб.
- ☐ 800.000—1.200.000 руб.
- ☐ 1.200.000—2.000.000 руб.
- ☐ 2.000.000—5.000.000 руб.
- ☐ больш за 5.000.000 руб.

Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (1-шы завод 41.500)
Нумар падпісаны ў друк 6.06.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 10 Заказ 244